Opłata pocz. opłacona ryczałtem. | Цана асобнага нумару **25** грошай.

№ 1—(41). | Вільня, 1 студня 1928 году. | Год II.

# БЕЛАРУСКІ ДЗЕНЬ

## ТЫДНЁВАЯ ЧАСОПІСЬ



| Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: | Падпісная цана: | Цана абвестак: |
|---|---|---|
| Wilno (Вільня), Ціхая вуліца № 4, (альбо Міцкевіча № 15) кват. № 20. Тэлефон № 1207. | На 1 месяц—1 зл., на 3 месяцы—3 зл., на паўгода — 5 зл. і на год — 9 зл. Заграніцу ўдвая даражэй. | За цэлую апошнюю старонку—120 зл., за 1/2 — 65, за 1/4—35, за 1/8—20 зл. За мілімэтравы радок перад тэкстам 25 гр., у тэксьце 30 гр. і за тэкстам 10 гр. |



**Усіх нашых чытачоў і прыхільнікаў, а разам з імі і ўсё беларускае сялянства вітаем з Новым Годам і жадаем пасьпешнае працы на карысьць нашае Бацькаўшчыны.**

**РЭДАКЦЫЯ.**

## З НОВЫМ ГОДАМ!

Адыходзіць у мінулае, у вечнасьць гісторыі яшчэ адзін год, а разам з ім адыходзяць і перажытыя намі радасьці і няўдачы.

Надзея, вечна жывая надзея ізноў ахапляець душу людзкую прад Новым Годам, ізноў маладзеюць імкненьні, ізноў хочацца думаць аб будучыне нашай і варажыць яе ход, ізноў хочацца думаць аб пабедзе адраджэньня, аб уваскрашэньні і вызваленьні нашае душы, нашага народу, нашага змучанага Краю.

З новымі сіламі зноў хочацца стаць да працы, да змаганьня.

Беларусь! — колькі з гэтым сьвятым для нас словам зьвязана гора, паняверкі, мукаў. Колькі ў мінулым перажыта намі, аб гэтым ведаем толькі мы.

Вякамі п'ем мы горкую чару і ведаем, што цяжкі і доўгі шлях наш да Сонца, да лепшае долі, да роўнасьці з іншымі народамі.

Разам са старым, адыходзячым годам ня скончыцца наш цярністы шлях, — але праменьні надзеі ўжо прабіваюць тую цемру, якая абкружала нас. Гэтыя праменьні, гэтыя птушкі адраджэньня ўжо лятаюць над нашаю горотнаю беларускаю зямлёю.

Стары год хоць і быў цяжкі для нас, аднак гэта быў год прадвесьня, год у які наш нацыянальны скарб узбагаціўся новымі праявамі нашага творчага генія і не з пракляцьцем, а ў задуменьні, успамінаем мы гэты стары год, успамінаем і нашы памылкі і кароткія сьветлыя мінуты творчасьці.

Новы год — будзе новым крокам наперад у гісторыі нашага адраджэньня і вызваленьня. І ня з сумам, — а з радасьцю спатыкаем мы гэты новы год, — з радасьцю маладога народу, які ведае, што шмат яму прыдзецца перажыць цяжкіх хвіль, але адначасна з гэтым ведае ён так сама і тое, **што ў будучыне чакае нас пабеда** над усімі цёмнымі сіламі.

Дык з Новым Годам, браты беларусы!

З новымі радасьцямі, з новымі дасягненьнямі.

Няхай вера, цьвёрдая маладая вера акрыляе ўсіх нас у цяжкай працы на карысьць нашае Бацькаўшчыны.

## Адміністрацыя

газ. „Б. Д.“ атрымала ад сваіх падпісчыкаў цэлы рад заяваў, што № № 38 і 39 газэты „Б. Д.“ здадзеныя № 38—11/XII, а № 39 — 18/XII на почту № 2 ў Вільні, не атрыманы ў Наваградчыне. Гэтым Адміністрацыя просіць усіх падпісчыкаў навясьці справкі на месцы, куды дзеліся гэтыя газэты і паведаміць Адміністрацыю, якая зробіць адпаведныя крокі дзеля ўкараньня вінаватых.

## Акружны Зьезд Гаспадарчых Коопэратываў.

17, 18 і 19 сьнежня г. г. адбыўся ў Вільні Акружны Зьезд Гаспадарчых Коопэратываў, згрупованых у Віленскім вокрузе Рэвізійнага Саюзу Польскіх Гаспадарчых коопэратываў у Варшаве і 3 конфэрэнцыі паасобных аддзелаў гэтых коопэратываў, гаспадарча-гандлёвых касаў Стэфчыка і Малачарскіх Коопэратываў.

Пунктам цяжару гэтых трох дзён быў Акружны Зьезд коопэратываў 18-га сьнежня г. г., які ўшанавалі сваёй прысутнасьцю Я. М. Арцыбіскуп-Мітрапаліт Віленскі кс. Р. Яблжыкоўскі, Ваявода п. Ул. Рачкевіч, Наваградзкі ваявода п. З. Бэчковіч, а таксама цэлы рад іншых выдатных прадстаўнікоў дзяржаўных і коопэратыўных інстытуцыяў.

Галоўным заданьнем Зьезду былі выбары Акружной Віленскай Рады, паінфармаваньне саюзных коопэратываў і агулу грамадзянства аб дасюлешняй дзейнасьці і здабычах гаспадарчага коопэратыўнага руху на абшарах Віленскага і Наваградзкага Вокругу.

На зьезьдзе і конфэрэнцыі, па ажыўленых дыскусіях, прынята рад прапазыцыяў, ідучых да далейшага разьвіцьця гаспадарчага коопэратыўнага руху, гэта знача: заклàдзіны ў ваяводзтвах паўн.-ўсходніх Малачарскае Школы і Льнярскае Школы і закладзіны зборных пунктаў пры малачарскіх коопэратывах, камунікацыі, забясьпечаньне, распаўсюджваньне ашчаднасьці і г. д.

Гледзячы на даволі вялікае ў апошніх часох разьвіцьцё гаспадарчых коопэратываў, як пад паглядам колькасьці, таксама і пад паглядам якасьці.

(У даны мамэнт Віленскі Вокруг Рэвізійнага Саюзу Польскіх Гаспадарчых коопэратываў гуртуе 204 коопэратывы з уласным капіталам 1.781.762 зл. і 62.302 сябры). Зьяўляецца неабходнасьць супольнае працы паміж гаспадарчымі коопэратывамі розных тыпаў, дзеля гэтага, маючы на мэце супольнасьць працы, пастаноўлена ладзіць зьезды і павятовыя конфэрэнцыі, што дасьць мажлівасьць застасаваць працу коопэратыву да патрэбы дадзенага абшару.

*К. П.*

## Няхай жыве братэрскі саюз беларускіх, польскіх і літоўскіх сялян.

## За год.

(*Агляд беларускага палітычнага жыцьця*).

У гісторыі Беларускага Адраджэньня 1927 г. запісаўся некалькімі важнымі падзеямі, якія будуць дзеяць у далейшым прабегу гісторыі Адраджэньня Народу.

Пачаты ён быў пры надзвычайным узросьце Беларускае Сялянска-Работніцкае Грамады, якая расла ў лік сяброў штогадзінна і здавалася, што ў сваім р зьвіцьці і „перапісі“ беларускага сялянства зьліквідуе ўсе іншыя беларускія палітычныя групы.

У палове студня мінулага году па загаду пракурорскіх улад ў былі арыштованы паслы грамадаўцы, апрача Ю. Сабалеўскага, разам з паслом Галавачом з Польск. Незалежнае Сялянскае Партыі. Судовыя ўлады прызналі далейшае істнаваньне Б. С.-Р. Грамады за пагражаючае цэласьці і супакою дзяржавы, прыпынілі разьбег арганізацыйнае працы Грамады і цераз 2 месяцы пасьля арыштаў паслоў Тарашкевіча, Рак-Міхайлоўскага, Мятлы і Валошына разам з некалькімі дзесяткамі іншых выдатнейшых працаўнікоў Грамады, атрымаўшы выдачу паслоў Соймам, абвясьцілі Грамаду нелегальнай партыяй актам 21 сакавіка 1927 г.

Падзеі пасьля арыштаў і пасьля 21 сакавіка паказалі, што сілай палітычнае арганізацыі не зьяўляецца колькасьць сяброў, хоць бы статыстыка выказвала іх сотнямі тысячаў. Беларускае грамадзянства, аказваецца, было пад гіпнозам масавага ўзросту Грамады, якая вельмі лёгка падпарадкавалася актам улады, якія скасавалі яе жыцьцё.

Польскае грамадзянства таксама залішне прыдавала вагі „перапісі незадаволеных“ ў Польшчы, якія йшлі ў Грамаду. Арганізацыя, якая паводле вестак польскае абшарніцкае і правае прэсы, мела пагражаць цэласьці дзяржавы, аказалася колёсам на саламяных нагах, арганізацыйна слабою, як ніякая іншая партыя, аказалася сілай на паперы і фікцыяй ў жыцьці.

Гэтая слабасьць найбольшай арганізацыі на нашых землях істнавала ў самым яе зародку і вынікала з генэзы Грамады. Б. паслы грамадаўцы, арганізаваўшы партыйны апарат і выкінуўшы лёзунгі, якія знайшлі псыхолёгічны, соцыяльны і нацыянальны грунт у масах беларускага народу, спадзяваліся дакаціцца з гэтым апаратам да выбараў у Сойм, калі сапраўды колькасьць, хоць-бы слаба арганізованая, мае ўплыў і робіць выбары.

Кіраўнікі Грамады, выкінуўшы лёзунг — зямля для ўсіх грамадаўцаў, — самі ня верылі ў зьдзейсьненьне яго, прызываючы да перадачы ўлады працоўным, так сама ня думалі аб практычным зьдзейсьненьні гэтага пункту свае палітычнае праграмы.

Маса паверыла лёзунгам. Чакала зьдзейсьненьня шумных абяцанак і ішла ў арганізацыю, баючыся таго, каб не спазьніцца ў паходзе па зямлю і ўладу. Арганізаваўшыся ў гуртках Грамады, сялянства паверыла ў магчымасьць паправы свае долі, паверыла ў магчымасьць атрымаць праз Грамаду зямлю.

* * *

Ў сьнежныя аслоны
Лес стары акрыўся,
Просіньню-туманам
Лёгка задымлёны
З полем ў адно зьліўся,
З сьнегавым дыванам.

Намяла ў ім горы
Бурная завея,
І ірдзіцца, зьяе
Прыбраны у зоры
Замак чарадзея,
Блеск пераліваe.

Блеск пераліваe
Дожджам серабрыстым;
Шапацяць галінкі,
Ветрык абсыпае
Туманам ірдзістым
Лёгкія пушынкі.

*Вітэблянін.*

## Беларусы і Вільня.

(*Пратэст беларускае эміграцыі ў Празе Чэскай*).

14 сьнежня 1927 г. ў Празе Чэскай адбыўся агульны сход беларускіх эмігрантаў сяброў культурна-прасьветнага Т-ва ім. Ф. Скарыны. На гэтым сходзе быў прачытаны спэцыяльны рэфэрат у справе Віленшчыны і Польска-Літоўскага конфлікту. Вынесена рэзалюцыя-пратэст проціў таго, што пры вырашэньні гэтага конфлікту ў Жэнэве ня былі прыняты пад увагу інтарэсы беларускага народу. Вільня—гэта сталіца Літоўска-Беларускага Краю (б. В. Княжства Літ.-Бел.). Беларусы, складаюць большасьць насельніцтва гэтага краю. Зусім зразумелая рэч, што канчальнае вырашэньне лёсу Вільні і Віленшчыны ня можа абмінуць інтарэсаў беларускага народу. Такі большменш сэнс прынятай рэзалюцыі.

Беларуская эміграцыя далей заклікае ўсе беларускія арганізацыі і партыі незалежніцкага напрамку пачаць, як у прэсе, так і іншымі спосабамі кампанію ў абарону інтарэсаў беларускага народу. Задачаю гэтае кампаніі павінна быць прызнаньне за Беларусамі права на Вільню, як на цэнтр свайго нацыянальнага і эканамічнага адраджэньня.

Гэтая рэзалюцыя, ня гледзячы на тое, што яна прынята ў Празе невялікаю групаю сыноў нашага краю, мае пэўнае палітычнае значэньне, бо зусім слушна падкрэсьлівае значэньне беларускага пытаньня ў справе Польска-Літоўскага конфлікту. Нажаль, беларускія „палітыкі“ сягоньня вельмі заняты „выбарамі“ і можа стацца, што голас эмігрантаў будзе „гласом вопіющаго в пустыни“. Напэўна будзе так, а вельмі дрэнна гэта, бо польска-літоўскім конфліктам цікавіцца ўвесь сьвет і ў першую чаргу павінны цікавіцца мы, бо тое, ці іншае вырашэньне гэтага польска-літоўскага конфлікту будзе мець гарамаднае значэньне прад усім для нас, Беларусаў, як для большасьці насельніцтва Літ.-Бел. Краю.

М. Б.

---

Вярхі-ж Грамады, б. паслы і кіраўнікі, ня верылі ў гэта самі і пасьмейваліся над прастатою палітычнага мышленьня беларускага сялянства. Толькі гэтым можна аб'ясьніць тое надзвычайнае лёгкадумства, з якім аддавалі кіруючы грамадаўскі апарат сялянства ў рукі найгразьнейшай дэмагогіі і турмы. Кіраўнікі Грамады ігралі масамі, думаючы аб тым, як-бы давясьці гэтую ігру да наступных выбараў і галасамі перапісаных у Грамадзе прайсьці ў Сойм.

Грамада ня была палітычнаю партыяю, як іншыя партыі, дзе кожны сябра зьяўляецца насіцелем пэўнае сфармулаванае ідэолёгіі. Ня толькі масавыя сябры Грамады, а навет кіраўнічыя адзінкі ня мелі аднае праграмнае лініі, а выяўлялі збор усялякіх думак і настрояў — ад камуністых да звычайнага палітычнага мяшчанства.

Астаўленая нармальнаму бегу выпадкаў, яна збанкрутавала-б і сама, бо масы ўрэшце сьцьвярдзілі-б, што пайшлі на дарогу, якая не дае ніякага палепшаньня жыцьця і псуе яго дашчэнту.

Грамада была першаю арганізацыяю, якая дайшла, дзякуючы сваім крыклівым і ашуканчым лёзунгам, да ўсіх куткоў Заходняе Беларусі, выключаючы Палесьсе. У гэтым зварушэньні мёртвага жыцьця беларускай вёскі яе заслуга ў гісторыі беларускага Адраджэньня.

Шкоднасьць Грамады і прычыненыя ёю страты гэтаму-ж Адраджэньню вялікія. Яна спаралізавала арганізацыйную і ўсьведамляючую працу іншым беларускім палітычным напрамкам, бо вёска, ашуканая ў сваім спадзяваньні на асягненьні дамаганьняў цераз Грамаду, заплаціўшы за даверые да яе арыштамі і турмою, вельмі недаверчыва адносіцца да ўсіх палітычных групаў у іх арганізацыйнай і культурнай рабоце.

Беларускі Сялянскі Саюз, заснованы ў 1925 г. б. пасламі Ярэмічам і Рагуляй, у 1927 г. асаблівага жыцьця не праявіў. Пасьля разгрому Б. С.-Р. Грамады гэныя паслы спадзяваліся масавага дапліву сяброў, якіх чакалі ў сваю арганізацыю ад б. грамадзістых. Праз увесь час змагаўшыся з чалавымі працаўнікамі Грамады, хацелі і спадзяваліся ўзрасьці ў сілы пасьля арыштаў сваіх працаўнікоў, з чаго былі навет рады. Надзеі іх ня споўніліся зусім. Сялянскі Саюз застаўся арганізацыяй Рагулі і Ярэміча, ня вызваўшы прыхільнасьці да сябе з боку сялянства.

Прычынаю гэтага зьяўляецца нядольнасьць гэтых людзей да арганізацыйнае і культурнае працы і мэтоды конспірацыі і дыктатуры, якімі вялі работу Ярэміч і Рагуля. Часопіс Сялянскага Саюзу „Сялянская Ніва“ стаўся нейкім „брукоўцам“ у беларускай прэсе, праз увесь час чэрпаў для сябе матар'ял з нейкай клёакі бруду, ляянак і інсынуацыяў проціў усіх, хто не хацеў ісьці з імі разам і хто асьмельваўся крытыкаваць работу гэтых „прадстаўнікоў“ народу.

„Сялянская Ніва“ не здабыла сабе ніякае популярнасьці сярод сялянства, дзякуючы таму, што апрача густое лаянкі не дав ла яму ніякае духовае стравы і культурнага разьвіцьця.

Такая пастанова справы ў Беларускім Сялянскім Саюзе вызвала зразумелую сэцэсію (разрыў)

# Сельска-гаспадарчы аддзел.

## Травасеяньне.

Дзе ні глянеш цяпер, усюды мала корму для скаціны. Зямлі ў дробных гаспадароў мала, амаль ня ўсе выганы разворваны пад поле, а сенажаці, якія застаюцца, запушчаны, забалочаны, добрыя травы на іх выраджаюцца, часта вытаптаны скацінаю, і сена зьбіраецца ўсё менш год ад году, дый сена ўсё горшае з кіслых балот.

Каб выйсьці з гэтае бяды, трэба, як можна больш, сеяць травы для корму, тады і скаціна будзе лепшая, зямля будзе лепш радзіць, і ня прыйдзецца скормліваць апошні пуд хлеба скацінаю. З пасеўных траваў на першым месцы стаіць: канюшына, тымотка, люцэрна, эспарцет, сарадэля і інш.

Канюшына чырвоная (Trifolium pratense). Гэта канюшына мае чырвоныя краскі, якія забраны ў галоўкі і сядзяць на вярхох сьцёблаў. У ёй галоўны атожылак мала адрастае і красак ніколі ня мае. Лісьцьцё канюшыны чырвонае зьверху, белаватыя плямкі на манер матылька, вось гэтым яна розьніцца ад іншых канюшын. Усякая канюшына мае вельмі многа лісьцьця, і калі-б сабраць усё лісьцьцё чырвонае канюшыны з аднаго гэкт. і разлажыць яго па зямлі, то ім можна ўслаць якіх 8-20 гэктараў зямлі. Карэньні канюшына мае моцныя, пучкаватыя, хаця галоўны корань ідзе ў зямлю ня больш, як 10-20 сант. Уся расьліна канюшыны, калі зусім разаўецца, вырастае ня больш як 30-60 сант. Канюшына чырвоная вымагае клімату ўмеркаванага і родзіць найлепш на грунтох гліністых і вапністых, вымагае глыбокае оркі. Лішку вады, або недастачы дажджу, як у паясе чарназёму Украіны, чырвоная канюшына ня зносіць.

Яна добра пераносіць нават вельмі халодныя зімы, каб толькі былі сьнежныя, шкодзіць ёй толькі частая адліга зімою ды сухія сіверы — вятры вясною. Чырвоную канюшыну можна сеяць вясною па аўсе, ячмені, або з восені па азімым жыце, а сама лепш у нашых старонах сеяць яе раньняю вясною, як толькі сходзіць сьнег, па жыце. Высяваючы з яравымі канюшыну лёгка прыкрываюць бараною, або можна і не баранаваць, як гэта часта робяць, сеючы ўвосень па жыце, ці рана вясною — зямля сама ўцягне насеньне.

Па азіміне добра сеяць канюшыну там, дзе зямля трохі горшая і пад жыта даецца гной. Чырвоную канюшыну сеюць або чыстаю і тады бяруць на гэктар 17-20 кілёграмаў, або робяць мяшанку з травою тымоткаю і высяваюць гэтак: 12 кгр. канюшыны і 8 кгр. тымоткі. Гэтак робяць, калі канюшыну хочуць касіць на адным месцы больш, як 2-3 гады.

Збор сена канюшыны ў нашых старонах дае 35-85 цэнтнараў (200 500 пуд.), сярэдне—50 цэнтнараў (300 пуд.). Бываюць гады і грунты, дзе яна можа даць і да 130 цэнтн. (800 п.). Насеньне канюшына дае ад 160 да 400 кгр. (10-25 п.) з гэктару. На насеньне лепш пакідаць другі пакос (атаву), яна не палягае і дае больш чыстае насеньне. Купляючы канюшыну, трэба вельмі добра глядзець, каб насеньне было чыстае, бяз кускуты

---

з боку некаторых сяброў Б. С. Саюзу, якія на чале з Янкай Станкевічам утварылі Беларускую Сялянскую Партыю. Але і гэтая партыя не праяв'ла большай актыўнасьці і мала пашырылася ў сялянскіх беларускіх кругох, якія абманутыя Грамадою, разьбіўшаю іх спадзяваньні, з лішняю мо' развагай і недаверыем заглядаюцца на ўсялякі падход да іх. Дагэтуль Б. С. Партыя выпусьціла 5 нумароў свае часопісі „Народ", апошні з іх з выразным прадвыбарным агітацыйным характарам.

Беларуская Хрысьціянская Дэмакратыя, на чале з б. паслом кс. Станкевічам, які, пасьля 10-цёх гадоў рэдагаваньня часопісі „Krynica" перадаў яе ў рукі рэдакцыйнае калегіі, вяла сваё звычайнае жыцьцё, шырыла сярод каталікоў-беларусаў нацыянальную сьведамасьць. У 1927 г. „Biełaruskaja Krynica" пачала зьмяшчаць сельска-гаспадарчыя артыкулы, што робіць гэную часопісь больш популярнай і карыснай для вёскі. Адбыты 6 лістапада зьезд Беларускае Хрысьціянскае Дэмакратыі, на які прыбыло каля 150 асобаў, сьведчыць аб пашырэньні ідэолёгіі гэнае партыі сярод беларусаў-каталікоў.

Працу сярод беларусаў-праваслаўных пачынаець Праваслаўная Хрысьціянская Дэмакратыя, а вярней група людзей з б. сэнатарам Багдановічам і сьвяшчэньнікам Голадам на чале, якая выпусьціла ў сьвет часопісь „Праваслаўны Беларус". Ня ведаем, ці праца гэтых людзей не абарвецца хутка, бо пачалі яе людзі, якія мала зьвязаны з беларускім адраджэнскім рухам. А вельмі было-б пажадана ўзварушыць праваслаўнае духавенства і прыцягнуць яго да нацыянальнага вызваленьня беларускага народу.

З прыкрасьцяй мусім ад'значыць існаваньне на целе беларускага адраджэньня групы Паўлюкевіча. Гэта можна аб'ясьніць толькі хварабітасьцяй самага беларускага руху і поўнай разьбітасьцяй ідэолёгіі і напрамкаў сярод беларусаў. Паўлюкевіч дагэтуль вядзе сваю „працу", рэклямуючыся дзе папала сваімі „пяцьцюкаліберными" арганізацыямі, утворанымі аднымі і тымі самымі людзьмі пры перастаноўцы алфавітнага парадку толькі. Праўда лепш яшчэ рэклямуе гэты „тожебелорус" „беларускую справу" штовечар у сваёй „крупёлцы" — г. зв. „grze świetlno-kolorowej", на грунце якой усьведамляе віленскае мяшчанства, найбольш жыдоў, якое добра навучылася лічыць пабеларуску („бурачковы 47!").
Арганізаваны ім зьезд радных спаткаўся з агульнай пагардай і пратэстам на зьездах радных ува ўсіх паветах Навагрудчыны. Можа гэты голас беларускага сялянства адчыніць урэшце вочы ўсім тым, хто кладзе надзеі на працу гэтага палітычнага „дохтара" з былых фальчароў.

У сакавіку 1927 г. пачала сваё жыцьцё тыднёвая часопісь „Беларускі Дзень", якая паставіла за заданьне нацыянальнае ўсьведамленьне беларускага працоўнага сялянства і паднясеньне яго матар'яльнага палажэньня і культурнага роўня, засьцерагаючыся адразу супроць палітычнай грызьні, на шлях якое перайшлі ўсе існуючыя беларускія групы і выдаваныя імі часопісі. „Бе-

(павілікі — бярозкі) і паходзіла не з палуднёвых краёў, як з Францыі, а з халаднейшага клімату, — як з Расеі. Самае горшае насеньне з Амэрыкі: вельмі нячыстае, бо многа мае кускуты. Каб спрактыкаваць, ці добрае насеньне канюшыны, трэба ўважна глядзець, каб яно было чыстае, і зрабіць гэтакую пробу: нагрэць добра на лямпе або на сьвечцы тоненькую бляшку і ўскінуць на яе колькі штук зярнят насеньня канюшыны. Добрае насеньне лопае з трэскам, а благое толькі згарыць на вугаль.

Добрае насеньне чырвонае канюшыны не павінна мець тухлага паху, мае блескучы ліловае жоўты (фіялета-жоўты) колер. Лепшае насеньне мае на $^2/_3$ часьці ліловага (фіялетавага) і $^1/_3$—жоўтага колеру. Бурых, чырвоных або зялёных зярнят павінна быць, як можна менш у насеньні чырвонае канюшыны.

Канюшына вельмі добра ўгнойвае поле, якое надта надаецца пад пасеў жыта, лёну і ўсіх хлябоў.

Другі гатунак канюшыны — гэта канюшына швэдзкая або гібрыдная (Trifolium hybridum). Мае галоўкі бледна-ружавыя і белыя. Сьцябло яе ў сярэдзіне пустое, і лісьцьцё бяз белых плямак зьверху. Насеньне яе жоўта-зелёнае і навет цёмна-аліўкавае і трохі бруднейшае. Сена з яе мае трохі гаркаваты смак. Расьце яна добра гэтак-жа сама на суглінiстых, мергалеватых грунтох і навет тарфяністых. Маразы і сырасьць яна лепш пераносіць, як чырвоная, але ня зносіць засухі.

Гатунак *белае канюшыны* (Trifolium repens) розьніцца ад другіх тым, што мае сьцябло, якое сьцелецца па зямлі і з каленцаў яго ідуць карэньчыкі і разам лісьцікі доўгімі хвосьцікамі, на якіх паўстаюць белыя краскі. Насеньне яе драбнейшае і ясна-жоўтага колеру. Добра пераносіць холад, сырасьць і засуху; расьце добра на ўсялякіх грунтох, навет камяністых і пясчаных. Найбольш высяваецца, як мяшанка з іншымі травамі ад 10-15 кгр. на гэктар. Белая канюшына расьце невялікая, ня больш як 30-50 сант. вельмі надаецца на пашу. *Я. Х.*

## Карысны спосаб пячы хлеб з дамешкай бульбы.

Пішучы гэты артыкул, хачу пераважна зьвярнуць увагу нашых гаспадыняў на тое, як можна сьпячы хлеб, каб ён быў танным і смачным, і што ня кожная гаспадыня ведаець, якім спосабам можна памагчы свайму гаспадару выкараскацца на вясну з хлебам.

Хлеб, як кожнаму ведама, найгалаўнейшы прадукт у селяніна, і калі яго не хапае, дык гаспадару хоць ты з бяды кладзіся ды памірай. Самому яшчэ так-сяк, хаця дрэнна, але пражывеш і пасёрбашкай якой, а дзетак мусіш накарміць, а чым-жа накорміш, калі няма хлеба?

Здараецца і тое, што калі хлеба ня хопіць, дык гаспадар зьбіваецца з толку і зробіць такую камбінацыю, каб купіць хлеба, што прадасьць забясцэн тое, што яму ў яго гаспадарцы трэба гэтак сама, як і хлеб. Але што-ж будзе рабіць — голад ня цётка!

У даным выпадку радзіцца гаспадыням прысьці з дапамогай у справе прыбаўкі хлеба коштам бульбы.

---

ларускі Дзень", адразу стаў даваць у кожным нумары вялікі гаспадарчы аддзел, рэдагаваны фахоўцамі аграномамі, працуючымі ў сельска-гаспадарчых арганізацыях па вёсках. З усіх беларускіх часопісаў „Беларускі Дзень" вырозьніваецца паважным тонам, адсутнасьцяй асабістых выпадаў проціў „інакомысьлячых" беларускіх дзеячоў (апрача г. зв. „тоже белорусаў". *Рэд.)* і добра дабраным матар'ялам артыкулаў.

Ідэолёгічна „Беларускі Дзень" унёс новую сьвежую струю паветра ў затручаны міязмамі ненавісьці і лаянак беларускі сьвет, стаўшы на грунт супрацоўніцтва з усімі народамі, засяляючымі Заходнюю Беларусь. Выдавец і рэдактар „Беларускага Дня" Ф. Умястоўскі пайшоў сьлядамі пачынальнікаў беларускага адраджэньня, у радох якіх быў адным з першых.

Ідучы па шляху, намечаным у № 1 „Беларускага Дня" выдавец яго, выпусьціў у сьвет два прыгожыя нумары чатырох-аркушовага выданьня „Беларускае Культуры".

26 кастрычніка 1927 г. чытачы і прыхільнікі ідэолёгіі, пашыранай „Беларускім Днём", зьехаўшыся ў Вільні, утварылі Беларускую Радыкальную Народную Партыю, якая прыступіла да арганізацыйнае працы сярод беларускіх працоўных масаў. Б. Р. Н. Партыя зьяўляецца арганізацыяй, у радох якое могуць знайсьціся ўсе беларусы: сяляне, работнікі і працоўная інтэлігэнцыя. Гэта партыя ня лёзунгаў, а рэальных дасягненьняў.

У лістападзе 1927 г. паўстаў Краёвы Народны Саюз Літоўска-Беларускіх Земляў „Аб'яднаньне", у які ўвайшла Беларуская Радыкальная Народная Партыя. Паўстаньне Народнага Саюзу, дзе згрупаваліся ўсе мясцовыя народнасьці, палякі, беларусы і літоўцы, з мэтай дабівацца палепшаньня лёсу літоўска-беларускіх земляў, інакш Заходняй Беларусі, уносіць новую эру ў справу адраджэньня краю і падняцьця яго матар'яльнага дабрабыту. Народны Саюз у першую чаргу дамагаецца ўвядзеньня аўтаноміі для літоўска-беларускіх земляў з Соймам у Вільні.

На грунце Краёвага Народнага Саюзу змогуць знайсьці найхутчэй здаваленьне ўсе патрэбы беларускіх працоўных масаў, якія, дзякуючы запанаваўшай анархіі сярод беларускіх партыяў, аставаліся без падтрыманьня. Аб гэтай анархіі і шкоднасьці яе для Беларускага Народу выдаў свой прысуд гр. Уладзімер Самойла, які публічна заявіў, што яна *„атручвае* ды руйнуе ўсё палітычнае, грамадзянскае дый навет асабіста прыватнае жыцьцё ў грамадзянстве".

1927 г. прынёс дэкрэт аб выбарах у Сойм, якія маюць адбыцца 4 і 11 сакавіка 1928 г. Да іх пойдзе беларускае грамадзянства з досьледамі прошлаг часу, у якім пераканалася ў шкоднасьці аддаваць свой лёс у рукі цкуючых адзін аднаго „вялікіх дзеячоў". Сялянства пазнала, дзе сапраўдная дарога палепшаньня яго жыцьця і на гэту дарогу ўвайдзе, а дарогай гэтай зьяўляецца згоднае сужыцьцё з такімі ж працоўнымі масамі, засяляючымі наш край, бяз розьніцы мовы і рэлігіі.

Такім пажаданьнем канчаем наш агляд падзеяў беларускага жыцьця ў 1927 г.

*Саўліч.*

Апошнімі гадамі па вёсках і фальварках надта многа садзяць бульбы. Ураджай бульбы, дзякуючы культурнаму ўспасабленьню зямлі, у параўнаньні з часамі даваеннымі, бывае вельмі добры і дваццаць-трыццаць пудоў бульбы, бывае, гаспадару нядорага каштуець. Жыта-ж ня кожны год, як трэба ўродзіць, дык яго найбольш сярод сялян не хапае на хлеб яшчэ за некалькі месяцаў да новага ўраджаю. Вось тут некаторыя гаспадыні спрактыкаваліся, як павялічыць хлебную прадукцыю. Скажам, што ў суседа хлеб ёсьць толькі на паўгода, а бульбы ён накапаў шмат. У такім выпадку бяды няма. Вось прыклад: Калі гаспадыні на выпечку хлеба патрабуецца, скажам, адзін пуд мукі, дык гэтульки сама можа яна напячы хлеба з паўпуда мукі, калі дамяшаець,—замест ½ пуда мукі —30 фунтаў бульбы. Расчыняецца хлеб з вечара, а на раніцы перад тым, як ужо пара яго мясіць, ачышчаецца бульба толькі па ямках і перамываецца ў некалькіх водах, потым бульбу трэба садраць на тарцы і, крыху зьліўшы ваду, палажыць гэтае драньнё, не аднімаючы крахмалу, ў дзежку з росчынай, а дадаўшы, колькі трэба для гушчыні, мукі, вымясіць у дзежцы, як гэта звычайна і робіцца.

Далейшая камбінацыя ўся тая, якая бывае з звычайным хлебам.

Хлеб удаецца дужа смачны, белы і ня кожны пазнаець, што дамешана бульба.

А галоўнае тое, што такі хлеб у гаспадара, дзякуючы гэтай камбінацыі, можа вадзіцца аж да новага ўраджаю.

Дамешваць у хлеб бульбу, звараную і стоўчаную, добра не надаецца, бо, як кажуць добра практыкованыя гаспадыні, ад гэткай бульбы цеста ў дзяжы радзее, а ў сьпечаным хлебе заўсёды будуць нястоўчаныя бульбяныя грузалкі.

Дык хто ня пэўны ў тым, што хопіць хлеба, а бульбы мае некалькі пудоў лішніх, хай яго гаспадыня папрабуе рабіць гэткую камбінацыю, а я буду пэўны, што потым мне падзякуе.

*Янка Тарыкаў.*

**Ад Рэдакцыі:** Ведаючы, што хлеб, сьпечаны з жытняе мукі разам з дамешкаю бульбы, зьяўляецца менш пажыўным, як клеб чысты, зьмяшчаем гэты артыкул, як параду для тых сялян, у якіх чыстага хлеба часам няма з чаго сьпячы.

## Як уберагчыся ад пажару.

(Гл. № 40 „Бел. Д.“).

У пяпярэднім нумары „Беларускага Дня“ я ўспомніў у сваім артыкуле аб тых вялікіх недахопах, якія здараюцца ў будаўніцтве нашых вясковых сялян і якія зусім не бароняць ад пажараў, а наадварот, яшчэ памагаюць у іх шырэньні.

Недахопаў гэтых я тут пералічваць ня зьбіраюся, бо гэта заняло-б надта шмат месца і часу. Гэтыя недахопы самі сабою выкажуцца ўсе, як я вылічу ўсе рады, ляпей сказаць прадпісаньні, якія сяляне нашыя павінны застасаваць у сваім будаўніцтве на будучыню, каб усьцерагчыся ад пажараў, а мае рады будуць вось якія:

1. Пры рабленьні новых будынін трэба заўсёды застасаваць належныя адступы аднае будыніны ад другое, а іменна жылыя будыніны павінны мець гэтыя адступы ня менш як 8 мэтраў адна ад аднае, гумны і хлявы па магчымасьці трэба будаваць якнайдалей ад хатаў і гэтак сама магчыма далей адно ад аднаго.

2. Новавыбудаваныя будыніны трэба заўсёды абсаджваць хутка растучымі дрэўцамі, як вішні, сьлівы, ліпы, клёны і гэтак далей.

Гэты спосаб абароны перад пажарам надта карысны, бо праз зялёнае сырое дрэўца агонь ня так хутка пераходзіць з аднэй будыніну на дру-

---

Агр. Гр. Керніцкі,

## Як даў сабе раду гаспадар Васіль дый яго жонка Параска.

*(Пераклад з украінскага)*

(Гл. № 39 „Бел. Дня“).

Цяпер ужо ня еджджу з канём на заработкі таксама і не хаджу на днёўку, бо Параска патра піць і для сябе і для мяне нейкую карысную працу знайсьці, так што агулам у хаце ня дрэнна вядзецца.

Маем што есьці, чым апранудца, а нават, як ехаў Сьцяпан у Канаду, дык ад яго паўдзесяціны дакупілі. Мая любая Параска працуе так, што да ўсходу сонца быдла абтопае, а мяне а 5-ай гадзіне гоне да працы з каровамі так, каб на 11-ю гадзіну прыгнаць іх да хаты на супачынак.

Сваю гаспадарку пачала Параска ад гною, які ёй дужа не спадабаўся. Зараз-жа казала мне вывезьці яго ў поле, а сама за мной раскідала, каб не ляжаў у купках. Казала, што гной да нічога, бо сухі, зацьвіўшы, што яго мала і пацехі з яго ня будзе. Пасьля казала мне адкідаць гной ад сьценак стайні на 3 шагі далей. Я хацеў растлумачыць ёй, што гэта дрэнна, бо трэба будзе яшчэ раз гной ад ваконца стайні перавозіць. А яна кажа, што ваконца на гной трэба на заўсёды забіць, і гной дзьвярыма з хлявоў вывозіць, дый у хлявох трэба вялікшыя дзіркі на вокны павырэзваць, устаўляючы ў іх шыбы.

Зноў баяўся я, каб не сказалі людзі, што мы для кароў пакоі ладзім. Але з Параскай жартаў ня было—сказала і канец.

Бо, кажа, Бог на тое даў вочы карове, каб на сьвет маглі глядзець, а што яны ў цемнаце бачаць. Зрабіў я ўсё, што яна казала, а цяпер бачу, запраўды гэта патрэбным было, бо жывёла аж блішчыць і за добрае ўтрыманьне быдла ўжо два разы хваліў нас паватовы аграном з коопэратыўнага хаўрусу.

На гнаёўню сама Параска вымерыла месца і казала там выкапаць яміну на паўтара аршына глыбіні, а з выкіданае зямлі зрабіць наўкола яе вал, так каб вада ў яе не сьцякала.

Кажа, што гной—ня качка, каб у вадзе, або ў гнаёўцы хлюпаўся.

Заместа валу, хацеў я канаўку пракапаць, каб вада і гнаёўка мелі выхад, калі гною нельга ў іх купацца.

Але Параска ўсё сваё ганяе, кажа, што не выпадае чужых рыбаў у сваёй вадзе гадаваць, бо гной—гэта скарб, а не сьмяцьцё. Навучыла

гую, па-другое можам мецъ і карысьць з гэтых дрэўцаў у постаці апалу, альбо фруктаў, як з вішняў, сьліваў і інш.

3. Каміны на хатах абавязкава трэба рабіць з цэглы, выводзячы іх па магчымасьці $^3/_4$ мэтра над страхою.

4. Не забывацца часта выцірацъ каміны, бо мы ведаем, што сажа, сабраная ў большай колькасьці, надта гаручая, (невыціраньне часта каміноў і зьяўляецца ў нас найбольшаю прычынаю ў шырэньні і ў частых выпадках пажараў).

5. Ня трэба ніколі складаць на хатах пад стрэхамі хутка гаручых матар'ялаў, як салома, кастрыца, лён і ганучы.

6. Крыць стрэхі не адною саломаю, як у нас гэта ў большасьці выпадкаў робіцца, а пакрываць накрытую саломаю страху, адумысьна дзеля гэтай мэты зробленаю мешанінаю, якая складаецца з пяцёх часьцей вапны, дзесяцёх часьцей пяску і з дваццацёх часьцей гліны, зьмешанай з невялікаю колькасьцю гною. (Мешаніну гэтую трэба разьвясьці вадою гэтак, каб яна мела выгляд густога і ліпкага цеста). Гэтая мешаніна надта адпорная на агонь і калі мы будзем мець стрэхі, абмазаныя ёю, то, у выпадку пажару, агонь пры належнай яшчэ абароне, ня так хутка запаліць яе. Карысна гэтак сама абмазваць гэтаю мешанінаю і самыя сьцены з вонкавага боку. Сьцены з унутранага боку трэба па магчымасьці пакрываць, што мае карысныя варункі і для самай гігіены памешканьня, бо ў такой будыніне ня так хутка заводзяцца прусакі.

7. Пакінуць ужываць, для асьвятленьня, лучыну, дзеля таго, што яна ня толькі можа быць прычынаю пажару, але яшчэ надта шкодзіць для вачэй; ня ўходзіць з лучынамі ў тыя будыніны, дзе няма столі, а таксама і туды, дзе знаходзяцца хутка гаручыя матар'ялы.

8. Падчас тушэньня газавых лямпаў, ня трэба ніколі дзьмухаць проста ў шкло, альбо адразу ўкручваць кнот, дзеля таго, што ад гэтага лёгка можа выйсьці выбух газы, а за гэтым можа быць і пажар. Пры тушэньні лямпы трэба павольна ўкруціць кнот, потым прылажыць далонь рукі да верху шкла і дзьмухнуць на далонь, ад гэтага паветра апусьціцца ў шкло і адразу затушыць агонь.

9. Ня трэба трымаць на вокнах пукатых бутэлек з вадою, дзеля таго, што было многа выпадкаў, калі прамень сонца, праходзячы цераз пукатую бутэльку, усё роўна, як цераз пукатае павялічальнае шкло, запальваў што-небудзь у хаце, што потым выклікала пажар.

10. Ня трэба хаваць нягашанае вапны ў тых будынках, праз страху якіх можа праходзіць даждажвая вада, дзеля таго, што былі выпадкі, калі вапна ад вады, праходзіўшай цераз страху, загаралася і вытварала пажар.

11. Трэба старацца, каб не працаваць па ночах у гумнах, хлявох і стайнях; калі-ж бяз гэтага трудна абыйсьціся, тады трэба па магчымасьці не працаваць пры лямпах, а абавязкава пры лятарнях, асабліва пры малацьбе збожжа, дзеля таго, што ад малацьбы заўсёды знаходзіцца дужа пылу, які можа, як порах, загарэцца і выклікаць пажар; гэтага самага трэба берагчыся і ў млынох, дзеля таго, што мучны пыл гэтак сама як порах, можа загарэцца, а нават і ўзарвацца

12. Не распальваць ніколі печаў газаю, дзеля таго, што ад гэтага таксама надта часта вынікаюць пажары.

13. Падрыхтоўваць лямпы для паленьня і наліваць у іх газы трэба толькі пры дзенным сьвятле, а не пры агні, бо газа, асабліва нядобра ачышчаная, лёгка можа сьцягнуць агонь і ўзарвацца.

14. Летам, на ўсякі выпадак, трэба мець на кожным дворы бочку вады і венік, асаджаны на доўгай тычыне, а гэта дзеля таго, каб у разе выпадку пажару ад сажы, ці з якое іншае прычы-

---

мяне, што гной—мяса, а гнаёўка — юшка з мяса, для нашае бульбы і нашых буракоў.

Гной аддала Параска пад маю апеку і прыказала мне, каб я зараз-жа, як толькі выкіну са стайні, выраўняў яго, зямлёй прытрусіў, а ў сухі час паліваў, каб ён, барані Бог, не зацьвіў. Растаўмачыла мне, што зацьвіўшы гной для расьліны, тое самае, што зацьвіўшы хлеб для чалавека.

У адным куце гнаёўкі закапаў я бочку з-пад алею, каб зрабіць месца для сьцякаючай гнаёўкі, каб пасьля мець чым гной падліваць, калі ён сохнуць будзе.

Як толькі не хапае гнаёўкі, дык вадой паліваю, вось абы толькі ня цьвіў.

Параска казала мне аб усім гэтым так памятаваць, як аб ранешніх пацерах, бо інакш ня мелі-б мы, а ні бульбы, а ні буракоў, а праз гэта ня было-б чым а ні сьвіней, а ні быдла падкарміць.

Гнаёўкі са стайні і з хлявоў не пазволіла Параска спускаць на гнаёўню, але радзіла асобную бочку закапаць каля сьценкі, а века каб абрэзаць, каб яно магло плаваць па гнаёўцы. Улетку, што трэці дзень выношу гнаёўку, расчыняю напалову з вадой і палiваю капусту, буракі і іншую агародніну.

Ўзімку, як напоўніцца бочка, развожу гнаёўку на лён, на бульбу, а нават, калі зямля не прамёрзшы, дык паліваю азіміну.

Палявую гаспадарку Параска зусім зьмяніла. Перш за ўсё не пазволіла араць у загоне больш, як на 6 скібаў, як гэта нябожчык бацька рабіў, бо казала, што ў тым іх уся бяда, што праз іх радзіліся васількі і іншыя непатрэбныя травы, якія $^1/_5$ поля нам кралі.

Ня ведаў я спачатку, ці Параска сьмяецца, ці праўду кажаць, але хутка сам пераканаўся, што гэта праўда, бо як у першым годзе зграў два загоны ў адзін, а ў наступным годзе ізноў 2 загоны ў адзін, дык ужо меў у 4 разы менш баразён і хлеба больш, так што цяпер ужо ару разам па 40 скібаў.

Параска сама мне паказала, што і па чым трэба сеяць, або садзіць. Намалявала ў календары нашае поле, падзяліла на дзесяціны і казала трымацца гэтага падзелу. На першым полі садзілі на гнаі $^1/_2$ дзесяціны бульбы, $^1/_2$ дзесяціны буракоў і троху капусты. На другім—мяшанка ячменю папалам з раньнім аўсом, ці зусім авёс з вікай. На трэцім — канюшына з цімафейкай, райграсам ангельскім, ці францускім. На чацьвёртым—пасьбішча да паловы жніўня. На пятым — паўдзесяціны жыта і пшаніцы на слабым гнаі.

ны, у самым зародку затушыць пажар. Трэба гэтак сама рабіць начныя дзяжурствы на вёсцы.

15. Вельмі часта здараюцца ў нас пажары ад курэньня, г. зн. ад папяросаў, дзеля гэтага трэба старацца, каб па магчырасьці ня курыць падчас сухога лета, вясны, восені, папяросаў і люлек на вуліцах, пляцох, у гумнах і хлявох.

16. Дзеля таго, што найлепшы ратунак ад пажару вада, трэба старацца, каб найболей рабіць студняў, а ў поблізі-сажалкаў.

17. Для болей хуткага тушэньня пажару неабходным зьяўляецца тое, каб кожная вёска мела пажарныя прылады, як помпы, бочкі, басакі і сякеры ў поўнай спраўнасьці. *Гаспадар.*

## Як можна палавіць і пазабіваць ворагаў селяніна—ваўкоў.

Многа бывае здарэньняў з ваўкамі, як улетку, так і ў зімовую пару. Там, кажуць, воўк падкапаўся пад сьцяну і павыцягваў авечкі, а гэнам сабаку злавіў, у трэцім месцы яшчэ нейкая трасца, а ўсё воўк ды воўк.

У апошнія гады ўжо ваўкоў столькі напладзілася, што нават сяляне ў некаторых месцах спынілі гадоўлю авец. І праўда, як-жа гадаваць авечкі, калі ваўкі бегаюць цэлымі бандамі і хапаюць ня толькі авечкі, сьвіньні, а заядаюць жарабяты і нават старыя коні.

Стрэльбы трымаць сялянам забараняецца, а паны хоць і маюць іх, але тыя палююць толькі на зайцоў і птушак, дык паміма ўсяго гэтага зьяўляецца пытаньне, што маем рабіць, каб якім-колечы спосабам можна было забіваць ваўкоў?

Спосабаў лоўлі і забіваньня ваўкоў ёсьць шмат, але ўсе гэтыя спосабы дрэнна практыкуюцца, аб каторых апісваць няварта.

Найлепшым спосабам лоўлі і забіваньня ваўкоў будзе спосаб ніжэй паданы:

Яшчэ з восені, пакуль зямля ня ўмерзла, каля самага лесу, ў лесе, а то і зусім на полі выгароджваецца на пляцы ў два квадр. сажні, а вышынёй у $1^1/_2$ саж. пастка для лоўлі ваўкоў. Калкі ўбіваюцца таўшчынёю ў 6 цаляў у дыямэтры, каб воўк, папаўшыся ў гэтую пастку, ня хутка мог перагрызьці іх. Адным словам, што пастка мусіць быць зроблена так, каб воўк з яе ня вылез ні цераз верх ні пад ніз, а для гэтага трэба, каб вышыня была $1^1/_2$ саж., а ўбіваць калкі глыбей.

Усё прыспасабленьне гэтай выгараджанай пасткі на ваўкоў тое самае, што і ў пастцы на шашка, але толькі ў гэткай пастцы ўся машынэрыя павінна быць у сярэдзіне, каб воўк часам, туляючыся каля абгародкі пасткі, не закрануў наводкі, калі-б яна была вонках.

Палажыўшы кавалак падлы, якая-б здарылася, сярод пасткі, воўк, чуючы пах, прыдзе здалёку да самай абгародкі і, туляючыся каля яе, як каля аўчарніку, пападзе ў прамугавіну, над каторай будзе вісець захлопка.

Як толькі воўк учэпіцца за падлу, дык вароты хлоп! і зачыніліся і воўк застаўся ў пастцы.

Як узяць ваўка з пасткі, хіба-ж апісваць ня трэба, бо рада адна — трэба забіць яго тым спосабам, які хто прыдумаець.

У гэткую пастку можа папасьці і не адзін воўк, а два і тры, калі яны пачынаюць красавацца.

Сёлета зямля пад сьнегам умерзла няглыбока, дык зацікаўленым можна зрабіць гэткую пастку цяпер-жа.

*Янка Тарыкаў.*

**Прачытаўшы газэту, перадай суседу!**

На шостым — $^1/_3$ дзесяціны лёну, $^2/_3$ сіняга лубіну на зярнё і прыворваньне.

### Што мне дае мая гаспадарка?

Нябожчык-бацька садзіў дзесяціну бульбы, а я толькі палову дзесяціны, аднак-жа, зьбіраю з поля такую самую колькасьць, як і ён, а нават і больш. А гэта дзеля таго, што прыворваю на зіму лубін, апроч таго, ўгнойваю звычайным гноем.

Ральлю пад бульбу ару на зіму, гной вывожу зімой і зараз-жа яго раскідаю, а на весну прыару, як толькі зямля крыху падсохне.

Бульбу саджу радамі 60╳45 цм. Каб садзіць правільна, значу поле маркерам; а саджу я бульбу Вольтмана.

Вось, як пасаджу я яе, дык перш за ўсё качаю, каб роўна ўзыйшла, потым бараную, каб не зарастала, а нарэшце ганяю.

Бульбы не прадаю, здаровую, сярэдняе велічыні выбіраю на насеньне, трохі кідаю для сябе і рэштай выгадоўліваю столькі сьвіней, колькі разоў маю ў гэтай рэшце па 18—20 пуд. бульбы.

Гэткім чынам, выгадоўваю найменш 5 шт. сьвіней, бо кожная з іх за зіму жзарэ 18—20 пуд. бульбы. Трымаю таксама адну сьвіньню на завод, якая дае 2 разы на год парасяткі.

Нябожчык-бацька ня сеяў буракоў, у яго каровы даставалі толькі шалупіны ад бульбы.

Параска завяла саджаньне Экэндорфскіх буракоў на $^1/_2$ дзесяціны, каб мець чым у працягу сямёх зімовых месяцаў гадаваць каровы, даючы ім па $1^1/_2$ з лішкам пуды буракоў штодзенна. Калісьці, дык я купляў бураковае насеньне, а цяпер ужо маю сваё, так што ўся вёска бярэ яго ў мяне. У гэтым годзе нават пані з суседняга маёнтку за насеньнем да мяне пасылала, але спазьнілася, бо свае сяляне ўсё разабралі.

Угнаеньне і распрацоўка ральлі пад буракі такая самая, як і пад бульбу. У канцы красавіка маю ўжо пасеяныя і закачаныя буракі. 3—4 разы абкопваем іх і паліваем гнаёўкай з бочкі.

Бочка мае ў дне дзірку, зачыненую затычкай. Бочку нясём удвух на дручкох між радкамі буракоў, а гнаёўка льецца на іх і разьліваецца па полі. Нават і ў двары такіх буракоў ня маюць, як у мяне, бо там гнаёўкай буракі не паліваюцца, хоць мо' штучныя гнаі і даюць пад іх.

(Працяг будзе).

## Калі і як прышчэпліваць.

Дзічкі звыкла прышчэпліваюць вясной, а дакладнейшы тэрмін залежыць перад усім ад пагоды. Калі пагода стаіць добрая, то прышчэпліваць можна ў канцы або ў палове сакавіка ці ў пачатку красавіка, калі-ж будуць стаяць доўга маразы, то аж да канца красавіка. Вельмі раньняе прышчэпліваньне часамі не ўдаецца, дзеля таго, што сьвежа зашчэпленыя дрэўцы могуць быць выстаўлены на мароз, які некарысна можа адбіцца на прышчэпах, хаця прымаразкі, якія бываюць уночы ў красавіку, ім ня шкодзяць.

Дзень для прышчэпліваньня трэба выбіраць соўнечны і даволі цёплы, бо ў выпадку, калі стаіць сьцюжа—немагчыма рабіць гэтую далікатную работу скамянеўшымі рукамі ад холаду (ня можна прышчэпліваць і ў вельмі цёплы дзень, бо месцы адрэзаных дзічак і адросткаў вельмі хутка засыхаюць, ад чаго злучаныя часткі ня скора зрастаюцца). Прышчэпліваць можна аж да таго часу, пакуль не пачнуць распушчацца почкі ў прыгатаваных да прышчэпліваньня галінках.

Спосабаў прышчэпліваньня ёсьць вельмі многа, але тутака будуць пададзены толькі найгалаўнейшыя, якія найлепш надаюцца ў нашым клімаце, праўда, ўсе яны вельмі мала ад сябе розьняцца.

Перад тым, як прышчэпліваць, трэба прыгатаваць адросткі: парэзаць іх на кавалкі, каб на кожным было 2 — 3 почкі, залежна ад даўжыні гэтых кавалкаў. Зусім хапае, калі адрэзаны кавалак галінкі мае 2 почкі (толькі гэты кавалак ня можа быць закароткі, бо тады вельмі нявыгадна з ім абходзіцца і вясьці апэрацыю).

Спосабы прышчэпліваньня:

1) **Прыстасаваньне** зьяўляецца найлепшым спосабам прышчэпліваньня, дзеля таго, што ў гэтым выпадку няма на дрэўку адкрытых ранаў, але такім спосабам прышчэпліваць можна дзічкі толькі маладыя і ў дадатку таўшчыня адростку, які маемся прышчэпліваць, мусіць быць роўнай таўшчыні дзічкі ў гэтым месцы, у якім будзе пераразвацца. Выбіраем адпаведны да дзічкі адростак і перарэзваем яго вострым нажом наўкось і ў меру магчымасьці роўна і гладка (рыс. 1).

Далей бярэцца адрэзаны адростак у вусны, каб не засыхаў і гэтак сама (укосна) перарэзваецца дзічка і пасьля гэтыя часткі прыкладаюцца адна да аднае (трэба, каб яны прылеглі да сябе вельмі шчытна і каб месца перарэзу амаль што ня было відаць). Злучаныя часткі трэба пасьля зьвязаць якімсьці мяккім і тонкім шнурком і абмазаць прыгатаванай да гэтага абмазкай. Вязаць трэба даволі моцна пятлёй, каб пасьля лёгка было разьвязаць і адлучыць гэты шнурок ад дрэўка. Абмазваючы, трэба накладаць кругом злучаных месцаў даволі густы слой масьці, каб ня было відаць перарэзу і пасьля разгладзіць яе пальцамі.

Абвязваньне зьяўляецца таксама вельмі важным для ўдачнага прыжыцьця дзічкі з галінкай, дзеля таго, што непрыстасованыя добра да сябе гэтыя часткі, пры правідловым і добрым зьвязваньні, можна дасканальна злучыць (найгалаўнейшае кара з карой). Прышчэпліваць гэткім спосабам можна вельмі хутка, і раны ў дрэўку адкрытай зусім няма; застаецца толькі невялікі рубец, які па двух-трох гадох зусім зарастае.

Гэткі спосаб прышчэпліваньня вымагае поўнага спрыту, які можа быць набыты зусім лёгка: узяўшы, напрыклад, колькі галінак лазы ці ін-



Рыс. 1.

шых, на якой можна рабіць адпаведныя нарэзы, далей прыкладаць і абвязваць перарэзаныя месцы. Пасьля некалькіх памысных пробаў, можна пачынаць прышчэпліваць дзічкі. *Г.*

(*Працяг будзе*).

# ПЧАЛЯРСТВА.

### Варшаўскі вулей сыстэмы Лявіцкага.

Варшаўскі вулей сыстэмы Лявіцкага, найболей быў у нас распаўсюджаны перад сусьветнаю вайною і, можна сказаць, што тады ён займаў першае месца, хаця апрача яго спатыкаліся вульлі *славянскія доктара Цясельскага*, але гэтыя апошнія ня мелі ў нас гэткага вялікага паваджаньня,

Варшаўскі вулей пачаў у апошнія гады аднак-жа траціць сваё пяршынство, галоўным чынам, дзеля таго, як я ўжо казаў, што ня мaeць наставак, якія б давалі пчаляру магчымасьць сабраць большую колькасьць добрага сьпелага мёды ў рамках, ня выкручваючы яго так часта.

Пяршынство ў гэтым маець вулей Дадана-Блатта, дзеля таго, галоўным чынам, ён і пачаў выпіраць вульлі іншых сыстэмаў, здабываючы сабе ў нас амаль што не агульнае прызнаньне. Я сказаў бы, аднак-жа, што і вулей Лявіцкага не зьяўляецца настолькі няпрыдатным, каб яго ў нас ня ўжываць для пчолак, а наадварот, ён будзе зусім прыдатным, калі застасаваць яго ў новым палепшаным стане, г. зн. з настаўкамі, якія дапасаваў да яго пчаляр Станілаў Бжоско.

Што тычыцца да самага ўстройства вульля Лявіцкага, то трэба сказаць, што ён зьяўляецца стаяком, гэта знача, што рамкі ў ём вузкія і даўгія, інача стаячыя. Складаецца гэты вулей, як і ўсе іншыя, з корпусу і *з рухомае*, калі вулей

маець настаўкі, альбо *нярухомае*, калі ён іх ня маець, стрэшкі. Стрэшка гэтая пры адкрыцьці апіраецца на адумыснай, дзеля гэтага зробленай, падпорцы, якая прымацована сьпераду вульля, гэта знача з таго боку вульля, дзе знаходзяцца ляткі. Пры адкрыцьці, века вульля пахіляецца ў бок ляткоў, апіраючыся на падпорку, а пчаляр з-заду вульля можа рабіць у вульлі, што яму падабаецца, не перашкаджаючы і ня дражнячы пчолак.

*Дно* ў вульлі Лявіцкага нярухомае, гэта знача, што яго ня можна вымаць. Гэта надта хваліць пчаляр ксёндз Т. Цібароўскі, мотывуючы гэта тым, што дно вульля ня можа быць рухомае з тае прычыны, што дзерава хаця-бы і найлепшага гатунку заўсёды, у дне рухомым, пакурчыцца, пакрывіцца і патворыць цераз гэта шчыліны, праз якія можа праходзіць, надта шкодны для пчолак, скразьнік. Я сказаў-бы, што гэткая самае здарэньне можа быць з усялякім, ці то рухомым, ці нярухомым дном, а дзеля таго ў такіх выпадках зьяўляецца заданьнем кожнага пчаляра папeрадзіць гэтаму ўсяму *загадзя*.

*У сярэдзіне* вулей Лявіцкага маець гэткія памеры: шырыні 262 мілімэтры, даўжыні 750 мілімэтраў і глыбіні 500 мілімэтраў, паз да вешаньня рамак уверсе вульля маець 13 мілімэтраў шырыні і 12 мілімэтраў глыбіні.

*Навонкі* гэты вулей маець гэткія памеры: даўжыні 805 мілім., вышыні 595 мілімэтраў, шырыні 445 мілімэтраў. Усе сьценкі вульля, апрача тае, дзе знаходзяцца дзьверцы, падвойныя.

*Гнездавыя рамкі настаўковага* варшаўскага вульля маюць ушыркі 240 мілімэтраў і ўвышкі 435 мімімэтраў разам з шырынёю дошчачак, з якіх гэтыя рамкі робяцца. Адступ рамак ад сьценак вульля 6 мілім.; унізе гэты адступ дакладным не зьяўляецца, дзеля таго, што ён там можа быць розны з тым варункам, што калі ён там занадта вялікі, то на зіму трэба яго адпаведна паменшыць, запіхаючы пад рамкі якогасьці цёплага матар'ялу, як кудзеля, і накрываючы яго палатном, ці чыстым вайлаком. Рамкі робяцца з адпаведных дошчачак, якія гэтак сама павінны мець дакладныя памеры, а ласьне: бакавыя і верхнія дошчачкі рамак павінны мець ушыркі па 24 мілімэтры, таўшчынёю на 8 мілімэтраў, ніжнія папярэчкі павінны мець ушыркі 8 мілімэтраў і ў шырыню 10 мілімэтраў, а за гэтым павінны быць таўшчэйшыя, чымсьці шырэйшыя. Гэтыя ніжнія пяпярэчкі рамак, скрапляючы іх, пры помачы пазоў, зробленых у бакавых дошчачак, павінны выступаць за сьценкі рамкі на 4 больш-менш мілімэтры. Верхнія пяпярэчкі, ці іначай бэлечкі рамкі павінны мець удаўжні 255 мілімэтраў, знача ад звычайнай шырыні рамкі 240 мілімэтраў, павінны быць на 15 больш-менш мілімэтраў болей, а гэта дзеля таго, каб прымацоўваючы верхнюю бэлечку да бакавых дошчачак рамкі мець па абодвых баках рожкі [такія выступы], на якіх мы можам павесіць рамку ў пазох. Дошчачкі, з якіх робяцца рамкі, габлююць толькі навонкі, тымчасам як у сярэдзіне яны застаюцца нeгаблёванымі, а гэта дзеля таго, каб вуза зробленая ў рамцы, мацней трымалася ў іх. У верхняй бэлечцы робяцца дзьве дзірачкі ў адступах паміж сабою на 240 мілімэтраў, значыцца на шырыню рамкі. У гэтыя дзірачкі круглыя, ці кантовыя, упускаюцца бакавыя дошчачкі. Адступы рамак паміж сабою рэгулююцца пры помачы цьвічкоў, якія павінны мець сагнутую паставу, і якія павінны мець адлегласьць ад рамкі нябольшую, як 12 мілімэтраў. Рамкі заўсёды павінны быць надта дакладна збудованыя, павінны быць простакутавыя і някосыя.

Дзеля дакладнейшага рабленьня рамак кожны пчаляр павінен мець адумысны прылад, які называецца *правідлам*. Такое правідла можна вымерыць і зрабіць самому для рабленьня рамак Лявіцкага і Дадана-Блатта і рамак для вульлёў іншых сыстэмаў. Правідла гэтае робіцца надта лёгка. Бярэцца звычайная тоўстая дошка, дылёўка, некарацейшая за рамку, а дакладна роўная з ёю. На дошцы гэтай, якая ўшыркі павінна мець гэтулькі сантымэтраў, колькі маець рамка ў сярэдзіне таго ці іншага вульля. Шырыню гэтую бярэм бяз ліштваў, якія прыбіваюцца па бакох дошкі, і якія выступаюць на шырыню сьценкі рамкі, над яе плашчынёю. Ліштвы гэтыя павінны быць з надта моцнага дзерава, з дуба ці грабу і ў дадатку павінны быць *надта моцна* прымацованы да бакоў дошкі. Цяпер, калі мы возьмем верхнюю бэльку рамкі, паложым яе на нашую дошку і ў яе версе запілуем ліштвы правідла аж да самае дошкі, то, такім чынам, мы будзем мець *сталы* разьмер верхніх бэлек рамкі, тое-ж самае робім і з ніжнімі ліштвамі рамкі. Па гэтых зарэзах, у разе патрэбы, мы можам у некалькі мінут напілаваць бэлек верхніх і ніжніх, дакладнага аднолькавага, што найгалаўнейшае, разьмеру.

*Пчаляр.*

(Працяг будзе).

# Корэспондэнцыі.

## Няхай жыве Беларуская Радыкальная Народная Партыя.

*(в. Слабодка, Дзісьненскага пав.).*

Я, як чытач Вашае газэты, не магу змаўчаць аб добрых выніках гаспадарчых парадаў сярод нас, сялян, здаволеных з газэты „Беларускі Дзень". З ахвотаю чытаем мы гэтую газэту, асабліва з задаваленьнем чытаем артыкулы Янкі Тарыкава, каторыя вызначаюцца нейкай прастатою ў зьмесьце, што зацікаўліваець разабрацца ў дзеле. Навінаў у нас мала, толькі тое, што маюць быць выбары ў Сойм і Сэнат. У апошні час паявіліся ў нас адозвы Беларускай Радыкальнай Народнай Партыі. Мы, сяляне, зацікавіліся гэтай партыяй, бо яна ідзе за аўтаномію. Усім супрацоўнікам вашае газэты пасылаю падзяку.

*Аўгені Кадушкевіч.*

# БЕЛАРУСКАЯ ХРОНІКА.

## Перад выбарамі.

28.XII Беларускі Цэнтральны Выбарны Камітэт склікаў у Вільні зьезд. На зьезд прыбыло каля 150 асоб. Зьезд адчыніў б. пасол Ярэміч. Старшынёй зьезду быў б. пасол Рагуля.

Зьезд віталі прадстаўнікі блёку нацыянальных меншасьцяў, ад жыдоў адвакат Чэрнікаў і др. Выгодзкі, ад ліцьвіноў грам. К. Вялецкі.

14.XII арганізаваўся Выбарны Камітэт „Сялянска-Работніцкага Аб'яднаньня“, якое імкнецца расшыраць сваю дзейнасьць на Заходнюю Беларусь і аб'яднаць, перш за ўсё, работнікаў. Старшынёй Камітэту грам. Пекач.

28.XII адбыўся ў Вільні зьезд Т-ва Беларускае Школы.

### Адозва Краёв. Нар. Саюзу.

Краёвы Народны Саюз выпусьціў адозву процiў хлусьлівай і агіднай адозвы збанкрутаванага на нашых землях „Вызваленьня“. У сваёй адозве „Вызваленьне“ стараецца з'агідзіць вядомага польскага дзеяча, шчырага краёўца адваката Рачкевіча.

### Адозва польскіх радыкалаў.

Б. пасол Антон Шапель, выступаючы ад імя Радыкальнае Сялянскае Партыі Заходняй Беларусі выдаў адозву, ў якой заклікае сялян на зьезд у Вільню 15 студня 1928 г.

### Дажыліся да аплявухаў.

Б. пасол і арганізатар блёку беларусаў з жыдамі Ф. Ярэміч зрабіў закід грам. Я. Мамоньцы, быццам ён мае лучнасьць з дэфэнзывай. У адказ на гэта Мамонька, лічачы закід за агіду, публічна даў Ярэмічу па твары. Прысутныя пры гэтым захавалі поўны спакой.

### Палякі ў беларускіх акругох не спадзяюцца правясьці сваіх кандыдатаў.

„Dziennik Wileński“ за 20 сьнежня падае, што эндэцкі зьезд у Саколцы (Беластоцкага ваяводзтва) пастанавіў, што эндэцкія арганізацыі пастанавілі „стварыць суцэльны польскі блёк пры выбарах, прынамсі ў акругох нацыянальна мяшаных і загрожаных“. „У прыпадку разьбіцьця польскіх сьпіскаў у выбарным вокрузе Беласток-Саколка-Ваўкавыск,—кажа пастанова — выбарная акцыя для палякоў будзе праграна“.

Гэтая пастанова цікава тым, што галасна сьведчыць аб беларускім характары насельніцтва Сакольскага, Беластоцкага і Ваўкавыскага паветаў.

# Апошнія навіны.

**С. С. С. Р.** Чэская газэта „Narodni Listy“ зьмяшчае гутарку свайго карэспондэнта ў Маскве з Троцкім. Троцкі паміж іншым сказаў, што цяперашні ўрад Савецкае Расеі, гэта не дыктатура пролетарыяту, а дыктатура паасобных асобаў. Здабыча рэвалюцыі выражаецца ў замене папярэдняга капіталістычнага парадку на „Нэп“, які стварыў буржуазію, як у гарадох, так і на вёсцы. „Нэп“ павялічыў лік кулакоў на вёсцы, а ў гарадох купцы і спэкулянты захапілі 70% усяго унутранага гандлю. Гэтыя факты пазваляюць цьвярдзіць, што спэкуляцыя зьяўляецца пружынай эканамічнага жыцьця цяперашняй Расеі.

Што датычыцца палёгкі жыцьця работнікаў, дык Троцкі рашуча заявіў, што пролетарыят больш, чымсь хто другі, адчувае рэзультаты эканамічнага крызысу. Рабочы дзень павялічыўся з 9-цёх гадзін на 10 гадзін, прычым большасьць фабрык выплачвае надзвычайна нізкія стаўкі за работу, якіх не хапаець на заспакаеньне самых элемэнтарных патрэбаў. Троцкі заявіў, што ён ня ведае такой другой сыстэмы ўрадаў, дзе палажэньне работнікаў было-б так цяжкім. Троцкі ня імкнецца да перавароту, але атмосфэру, спрыяючую дзеля пераварота, стварае новая буржуазія. Троцкі далей заявіў, што ён не жадае закончыць свае палітычнае кар'еры ні дарогай кампрамісу, ні ў Сібіры, і хоць яго праціўнікам гэтыя рэчы не зьяўляюцца зусім зразумелымі, ён ня думае, каб яны захацелі пазбавіцца яго. У канцы канцоў, сказаў Троцкі, усё, аднак, магчыма.

Пануючая група Сталіна праводзіць у жыцьцё пагрозы, кінутыя опозыцыі за яе фракцыйную работу. Нядаўна, як падаюць газэты, адбыліся рэвізіі і арышты сярод камуністычных опозыцыянэраў.

Група опозыцыянэраў на чале з Ракоўскім, б. савецкім амбасадарам у Парыжы, падала ў Цэнтральны Камітэт партыі заяву, што яны не адступяць ад сваіх мэтаў, і далей будуць старацца паказваць на тыя памылкі, якія, робіць партыя і якія вядуць да ўпадку дыктатуры пролетарыяту.

**Кітай.** Ува ўсіх местах провінцыі Хон-Люк-Фунг, дзе дагэтуль утрымаліся камуністыя, пануе страшны тэрор. Сьвяшчэньнікі, звольненыя з турмаў, расказваюць, што з турмаў бачылі, як у працягу апошніх двух месяцаў камуністыя штодзень растрэльвалі па 150 чалавек. Сябрамі камуністычных арганізацыяў зьяўляюцца, галоўным чынам, хлапцы і дзяўчаты ад 15 до 18 гадоў.

**Кітайскія марскія разбойнікі** захапілі ў раёне Іганту французскі пасажырскі параход. Разбойнікі аграбілі ўсіх пасажыраў і частку з іх забілі. Рэшту жывых разбойнікі захапілі і трымаюць у характары закладнікаў. Раней кітайскія марскія разбойнікі захапілі англійскі пасажырскі параход.

**Амэрыка.** На першы дзень Каляд амэрыканскія лятуны зрабілі спробу пералёту з Амэрыкі ў Эўропу. Цікаўна, што апаратам кіравала жанчына Граўсон, сваячка б. прэзыдэнта Вільсона. Пералёт ня ўдаўся; разьбіты апарат знайдзены на беразе Антлянтычнага акіяну. Лёс лятуноў невядомы. Трэба судзіць, што лятуны эгінулі.

**Турцыя.** На моры сустрэліся два параходы, адзін з іх разьбіўся і затануў. Згінула 30 асоб.

**Польшча.** Скасаваньне палявых судоў.

„Kurjer Wileński“ падае, што ад 1 студня 1928 г. маюць быць скасованы палявыя суды, якія істнавалі на нашых землях. Паводле спэцыяльнага закону, усе справы, якія падпадалі палявым судом, ящчэ неразабраныя, перайдуць да звычайных судоў.

## ПІСЬМО Ў РЭДАКЦЫЮ.

Паважаны Грамадзянін Рэдактар!

Гэтым прашу надрукаваць, што рэдактара і аўтора стацьці, надрукованай у № 39 „Бел. Слова“ я пацягнуў да судовае адказнасьці.

З пашанай
А. Міткевіч.

## ПАШТОВАЯ СКРЫНКА.

**Янка Жук.** На куплю радыё дазволу ўлады ня трэба. Купіўшы апарат радыё і паставіўшы яго, трэба зарэестраваць у найбліжэйшым паштовым урадзе, які вядзе рэестрацыю ўсіх апаратаў. Аплата за карыстаньне радыё 8 зл. за 3 месяцы. Апараты прадаець фірма „Электріт“ у Вільні, Глыбокім, Лідзе, Баранавічах, Наваградку і Ваўкавыску.

**Ст. Кнішчык.** Шофэрскіх курсаў цяпер у Вільні няма. Плата за курс, які трывае каля 3-х месяцаў, 350 зл. Танных кватэраў пры курсах няма.

**М Ососос** у в. Осососы, пошта Сіняўка. Пчалярская кніга Я. Пачопкі „Пчолы і як іх вадзіць у рамовых вульлёх“ каштуець 2 зл. і 50 грашоў. Можна яе выпісаць з Беларускай Кнігарні Выдавецкага Т-ва (Wilno, ul. Ostrobramska 1). Аб разьмерах і сыстэмах вульлёў пішацца ў нашай газэце ад нумару 34-га. Там можна знайсьці ўсё. Усе нумары, у якіх гэта ёсьць, ад 34-га мы Вам высылаем, а ад гэтага часу будзем высылаць Вам газэту — пастарайцеся прыслаць падпісную плату.

**Гардзеевічу Антосю** ў в. Літва. Газэта Вам будзе высылацца ад 1.1.1928 г. Друкі Б. Р. Н. П. Вам гэтак сама высылаюцца. Пастарайцеся аплаціць падпіску.

**Шкету Гіляру** у в. Быльцэвічы, **Чарнусі М.** у в. Добычыне, **Вайцяховічу Міхасю** у м. Красным, **Грышкевічу Антосю і Невядомскаму Сыльвэстру** у в. Рымкі, Семашкевічу Рыгору у в. Мароські, **Шупеньку Сяргею** у в. Падбярэзье: усім газэта стала будзе высылацца ад 1.І.28 г. Пастарайцеся прыслаць падпіску.

**Бел. Культурна-Прасьветнаму Т-ву імя Ф. Скарыны. Прага-Чэская.** Просім прыслаць рэфэрат, зачытаны 14 сьнежня ў справе польска-літоўскага конфлікту, альбо яго тэзы для выкарыстаньня ў газэце. Вашу ініцыятыву вітаем. Фатаграфіі атрымалі.

Пасылаем усе друкі новазаснованага Краёвага Народнага Саюзу Літоўска-Беларускіх Земляў і калі сярод Вас знойдуцца прыхільнікі аўтанамічнае ідэі, паведамце нас для устанаўленьня больш моцнага контакту.

## Друкі Краёвага Народнага Саюзу і Беларускай Радыкальнай Народнай Партыі.

1) **Да народаў Літ.-Бел. Краю.** Адозва Зьезду 27 лістапада.
2) **Да народаў Літ.-Бел. Краю.** Адозва Выканаўчага Камітэту К. Н. С. Літ.-Бел. Земляў „Аб'яднаньне“.
3) **Наш адказ „Вызваленьню“**—лістоўка.
4) **Асновы праграмы Б. Р. Н. П.**
5) **Да Беларускага Народу.** Адозва Б. Р. Н. П.
6) **Як выбраць добрага каня** — брашура агр. Пачопкі—32 стр. Выданьне Б. Р. Н. П.

Усе гэтыя друкі можна атрымаць у Вільні ў Сэкратарыяце Краёвага Народнага Саюзу Л.-Б. Земляў **Mostowa d. № 9 m. 3**, і ў Рэдакцыі „Б. Д.“ **Cicha 4, m. 20.**



**КУПЛЯЕМ УСЯЛЯКАЕ СЫР'Ё І ПЛАЦІМ НАЙБОЛЬШЫЯ РЫНАЧНЫЯ ЦЭНЫ.**

Рэдактар-выдавец Ф. Умястоўскі. Druk Józefa Zawadzkiego w Wilnie, вул. Сьв. Анны 3.